# НІВА

ОРГАН Г.П. БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДСКА – КУЛЬТУРНАГА ТАВАРЫСТВА

№ 35 (548) ГОД XI БЕЛАСТОК 28 ЖНІЎНЯ 1966 г. ЦАНА 60 ГР.

## У НУМАРЫ:



НАШЫ 1000 ГОД

## За „Дні” „Беларускай культуры

Дні доўгія, ночы кароткія, многа работы, якая не хоча чакаць. Гэта лета. Сезон мёртвы ў культурна-асветнай дзейнасці. У горадзе і ў вёсцы. Але вось-вось і новая восень. У жніўні ўжо карацейшыя дні. А верасень, за ім кастрычнік — і яна залатая, багатая перад намі. З ёю і новы сезон у кіно, тэатрах, музеях, выставачных залах, клубах, дамах культуры, бібліятэках, чытальнях, школах розных тыпаў.

Паплыве старым, хоць паглыбленым руслом культурна-асветная дзейнасць тысяч штатных і дзесяткаў тысяч няштатных дзеячоў гэтай дзіўнай галіны жыцця народа, якой з'яўляецца яго культура. Новы сезон будзе ў гэтым годзе тысячным. Умоўна так акрэсліваем, бо ж яшчэ 25 год назад ніхто не думаў аб масавай культуры і яе сезонах.

Цяпер плануем (хоць нам гэта часта не выходзіць) таксама і развіццё культуры. Але гісторыя планавання ў нашай краіне мае 20 год, а гісторыя народа, які жыве ў гэтай краіне, 1000 год.

Мы ўжо пісалі раней з выпадку Тысячагоддзя Польскай Дзяржавы аб тым, што 1000 год маем і мы — беларускае насельніцтва Беластоцкай зямлі. Па-рознаму толькі ў розных перыядах гэтая зямля называлася. І мы святкуем Тысячагоддзе з поўнымі правамі. Унеслі нашы далейшыя і бліжэйшыя продкі, а нават мы самі ў дасягненні Польскай Дзяржавы напэўна нямала. Прыпамінаюць аб гэтым польскія вучоныя часта выступаючы ў польскім друку з гістарычнымі тэмамі Тысячагоддзя. Адчуваем мы сябе раўнапраўнымі грамадзянамі.

Культура беларусаў таксама як і палякаў сягае 1000 год. На землях, на якіх жывем, на пагранічнай Беласточчыне была яна заўсёды цесна звязана адна з другой.

Уплывы ўзаемныя ішлі туды і сюды. Не мне распісвацца на спецыфічныя навуковыя тэмы. Аб іх павінны гаварыць нашы светлыя людзі. Яны на старонках «Нівы» павінны выступіць і сказаць аб Тысячагоддзі беларускай-беластоцкай культуры і яе сувязях з пагранічнай польскай. Я толькі хачу засігналізаваць актуальную тэму. 7—9 кастрычніка ў Варшаве ў Вялікім тэатры адбудзецца вялікі Кангрэс Польскай Культуры, які пачне і новы сезон культурна - асветнай працы на 1966/67 гады.

Кангрэс будзе маніфестацыяй тысячагадовых дасягненняў народа, пакажа сілу культуры Народнай Польшчы, дасць вобраз ролі і месца польскай культуры ў свеце. У перадкангрэсавай урачыстай хвіліне варта прызадумацца і заняцца таксама і беларусам у Польшчы пытаннямі, атмасферай і заданнямі Кангрэсу. Беларускае Таварыства высылае свайго спецыяльнага дэлегата на цэлы час абрад Кангрэсу (гэта Алесь Баршчэўскі — Барскі — паэт і літара-

(Працяг на стар. 5)

АДКРЫВАЕМ БЕЛАСТОЧЧЫНУ



Узгоркі і пералескі — характэрныя рысы сакольскага краявіду.

## Па ўсходняй Сакольшчыне

Чарговы наш этап па шляху вандраванняў падарожнікаў-пешаходаў журналістаў «Нівы» вядзе нас па ўсходняй Сакольшчыне па-над рэчкаю Нетупаю. Першыя вандраванні надзвычай павучальныя, павучальныя сустрэчныя размовы, павярхоўныя здавалася б уражанні, спасцярогі і параўнанні.

Даязджаем тады ПКС-ам да Паўночнага Вострава, а далей — дарога нашая пехатою ў напрамку на Грыбоўшчыну, Лешчаную, Нетупу, Саннікі і Крушыняны.

Праз Астравы трэба ісці некалькі кіламетраў. Астравоў ёсць тры: Паўночны, Паўднёвы і Новы. Калісьці была гэта адна вёска. Старыя дакументы расказваюць, што авечкі ў такой доўгай вёсцы не пазнавалі сваіх панадворкаў, часта блудзілі, і гаспадарам цяжка было іх знаходзіць. Таму сяляне пастанавілі сярэдзіну вёскі перанесці ў іншае месца — паўстала такім чынам з аднае вёскі — тры.

Астравы — вёскі старыя. Старыя не толькі гістарычнай старасцю — выводзяцца яны недзе з XV стагоддзя — старыя яны перад усім сваім сённяшнім старэчым станам. Нідзе хіба няма больш старых, музеальных ужо хат з маленькімі вокнамі перадзеленымі накрыж тоненькімі рамкамі, нідзе няма так многа апушчаных уласнікамі, зарослых пустазеллем панадворкаў, нідзе мабыць няма так многа адзінокіх старых і так мала моладзі. Убогая глеба, цераспалосіца, недахоп маладых гаспадарскіх сіл.

Аставім аднак Астравы і перабярэмся ў адлеглую добрых некалькі кіламетраў Грыбоўшчыну. Дарога вядзе побач старога гуранскага вятрака і грыбоўшчынскай царквы. Царква невялікая, больш за ўсё скромная, размешчаная за вёскаю на невялікім узгорку, у невялікім ляску. Пабудаваў яе Ілія Грыбоўскі, які потым стаўся прарокам. Верныя паломнікі, якіх тысячы зыходзілася сюды з усёй праваслаўнай Польшчы міжваеннага дваццацігоддзя назвалі царкву «Новым Іерусалімам». Дарога нашая вядзе да Паўла Валошына, які жыве таксама за вёскаю ў лесе над рэчкаю. Лес тут густы, а дарога вузенькая і крутая, цяжка было б знайсці Валошына, каб не своеасаблівыя сігналы — гучныя званкі гойданыя ветрам, якімі Павел Валошын адстрашае ад свайго хутара дзікіх свіней.

Ветраныя званкі не з'яўляюцца аднак адзінай, ні найважнейшай находкай Валошына. Зараз пры ўваходзе на панадворак аглядаем, звонку крыху прычудлівы, трактар, у цэласці сканструяваны рукамі Паўла Валошына. Далей на панадворку стаіць другі, яшчэ больш дзіўны трактар «хатняй» работы Валошына. Трактар гэты толькі на трох колах спалучаны з плугам, які размешчаны пад сподам трактара.

Калі я ўвайшоў да хаты Валошына быў ён якраз заняты выкручваннем мёду з сотаў.

— Хадзіце, пакажу вам машыну да выкручвання мёду, якой не ўбачыце нідзе ў свеце, — не без годнасці сказаў Валошын. Наватарская машына аказалася таксама яго ўласнай канструкцыі.

(Працяг на стар. 3)

СЯРГЕЙ НОВІК-ПЯЮН

## ВЕРАБЕЙЧЫКІ

На астрожнае акно
Падаюць сняжынкі.
Туды сыплю я штодня
Хлеба парушынкі.

Для крылатых пяюноў
Снеданне рыхтую,
Верабейчыкаў-сяброў
Чым магу частую.

І чырыкаюць ў акне
Шэрыя клубочкі,
Пацяшаюць сэрца мне
Ад рана да ночкі.

Верабейчыкі мае,
Шэранькія птушкі,
Паляціце вы хутчэй
Да маёй дачушкі!

І скажыце, што ў турме
Цяжка я гарую,
Што па Зоеньцы маёй
Вельмі тут сумую.

Няхай верыць, няхай ждзэ
Сэрца ўсёю сілай
І татулька да яе
Вернецца шчаслівы.

Развіднелася між крат
Неба сіняй стужкай.
Паляцелі ў родны край
Шэранькія птушкі.

г. Слонім, 1943 г.
Фашысцкі астрог,
камера № 18.

Падзеі • Здарэнні • Факты • Каментарыі • Весткі

СВЕТ | БССР | ПОЛЬШЧА | ВАЯВОДСТВА

## СВЕТ

### СУПРАЦЬ ВАЙНЫ Ў В'ЕТНАМЕ

«Інтэрвенцыя амерыканскіх сухапутных сіл у дэмілітарызаванай зоне, непрыкрытая пагроза пераходу 17 паралелі, якая змяшчаецца ў выказванні дзяржаўнага сакратара Дзіна Раска, выклікаюць глыбокі абгрунтаваны неспакой усяго чалавецтва», — падкрэсліваецца ў апублікаванай заяве Сусветнага Савета Міру.

Заява падпісана прэзідэнтам каардынатарам ССМ віднай грамадскай дзячкай Бельгіі Ізабелай Блюм.

У заяве падкрэсліваецца, што пераход амерыканскімі войскамі дэмаркацыйнай лініі з'явіўся б новым і вельмі небяспечным крокам у палітыцы эскалацыі. Сусветны Савет Міру заклікае ўсе народы да актыўнай барацьбы за спыненне ваенных дзеянняў у В'етнаме, за вывад амерыканскіх войск з яго тэрыторыі, за найстражэйшае захаванне жэнеўскіх пагадненняў.

Генеральны сакратар ЦК Румынскай кампартыі Накалае Чаушэску заявіў аб рашучасці РКП і румынскага ўрада аказваць усямерную падтрымку в'етнамскаму народу ў барацьбе супраць агрэсіі ЗША.

Ні на адзін дзень не спыняецца шырокі рух у Італіі супраць разбойніцкай вайны амерыканскіх імперыялістаў у В'етнаме. Адным з састаўных элементаў гэтага руху з'яўляецца збор сродкаў на пакупку медыкаментаў і санітарнага абсталявання для Дэмакратычнай Рэспублікі В'етнам.

### ПРЫЗЫЎ РЭЗЕРВІСТАЎ

Амерыканскі сенат прыняў папраўку да законапраекта аб ваенным бюджэце на 1967 фінансавы год, якая прадстаўляе прэзідэнту Джонсану права прызваць 528 тысяч рэзервістаў і членаў нацыянальнай гвардыі для ўдзелу ў вайне ў В'етнаме.

За папраўку, якую ўнёс старшыня сенацкай камісіі па справах узброеных сіл Расел, прагаласавалі дзве трэці сенатараў.

Прэзідэнт Джонсан і Пентагон пярэчаць цяпер супраць прызыву рэзервістаў і членаў нацыянальнай гвардыі, апасаючыся, што такая мера выкліча нездавальненне ў краіне і можа неспрыяльна адбіцца на шанцах дэмакратычнай партыі на маючых адбыцца ў лістападзе выбарах у кангрэс.

### СУСТРЭЧА ДЖОНСАНА З УЭСТМОРЛЕНДАМ

На сваім ранчо ў штаце Тэхас прэзідэнт Джонсан сустрэўся з камандуючым амерыканскімі войскамі ў Паўднёвым В'етнаме, генералам Уэстмарлендам.

На прэс-канферэнцыі, якая адбылася на ранчо, Джонсан паведаміў, што ў час сустрэчы абмяркоўвалася становішча ў В'етнаме.

### ПАДАРОЖЖА ДЭ ГОЛЯ

У чацвер 25 жніўня прэзідэнт Францыі Дэ Голь збіраецца ў падарожжа, якое можна назваць падарожжам кругом свету. Наведае ён менавіта: Эфіопію, Камбоджу, Новую Каледонію, Новыя Гібрыды, Палінезію, Гвадэлупу.

## БССР



### СЯРГЕЮ ПЯЮНУ 60 ГОД

Сяргей Новік — Пяюн — беларускі настаўнік, родам з вёскі Лявонавічы Нясвіжскага раёна (нар. 27 жніўня 1906 г.). Апынуўшыся, як і многія яго калегі, у пачатку 20-х гадоў без працы, арганізуе прыватныя беларускія школы, вядзе культурна-асветную работу, за што высылаецца ў глыб Польшчы. Формай пратэсту супроць нацыянальнага ўціску былі яго вершы і п'есы, якія друкаваліся ў заходнебеларускіх газетах і дзіцячым часопісе «Заранка» пад псеўданімамі Сяргей Пяюн і Малады Дзядок (п'есы яго выходзілі ў Вільні таксама асобнымі кніжкамі: «Цудоўная ноч», «Елка Дзеда Мароза», «Пакой у наймы» і інш.).

Лірычны герой паэзіі Новіка — Пяюна — заходнебеларускі інтэлігент, які шукае свайго месца ў жыцці. Няволя роднага краю становіцца яго няволяй, у душы абуджаецца пратэст і бяссільны боль. Жыццё шпурляе Новіка — Пяюна з канца ў канец свету. Бацькаўшчыну ён пакідае і застае то прыгнечанай польскімі панамі, то свабодную савецкай зямлёй, то зноў заняволенай нямецкімі фашыстамі і нарэшце — вызваленай навекі. Гэты летуценнік і бунтар зведаў высылку і турму буржуазнай Польшчы, фашысцкі астрог і лагер смерці. Па непаразуменню быў рэпрэсіраваны ў часе культу асобы і рэабілітаваны пасля XX з'езда КПСС. Драматычныя павароты біяграфіі Пяюна надаюць яго паэзіі асаблівы, зменлівы каларыт. Мы бачым дзівосны няўстойлівы светацень, здаецца, нібыта з'явы жыцця асветлены тут прывідлівым святлом начное паходні. Чым далей ад радзімы кідае героя злы лёс, тым мацней і драматычней дзейнічае сіла прыцяжэння. Патрыятычная песня выгнанніка «Зорачкі», напісаная С. Пяюном у часе ссылкі ў глыб Польшчы, стала папулярнаю масаваю песняй у Заходняй Беларусі, а ў часе фашысцкай акупацыі ажыла нанава сярод вывезеных на работы ў Германію беларускіх юнакоў і дзяўчат.

Вершы, створаныя аўтарам у лагеры смерці Калдычава, не маюць у беларускай паэзіі прэцэдэнту і ўжо гэтым цікавыя...

Зараз Сяргей Новік-Пяюн жыве ў Мінску.

(Са зборніка твораў паэтаў Заходняй Беларусі п. з. «Сцягі і паходні»).

## ПОЛЬШЧА

### ТЭЛЕВІЗІЙНЫ ПАЛІТЭХНІЧНЫ ІНСТЫТУТ

Польскае тэлебачанне ўводзіць новую перадачу: лекцыі для завочнікаў першага курса тэхнічных вышэйшых навучальных устаноў. Першая лекцыя адбудзецца ўжо 4 верасня ў 9 гадзін раніцы.

### 1000 «УРСУСАЎ» У МЕСЯЦ

Першую серыю сваіх сто тысяч трактараў завод «Урсус» будаваў на працягу 17 год. У бягучай пяцігодцы на пабудову 100 тысяч трактараў калектыву завода «Урсус» спатрэбіцца ледзь 40 месяцаў.

### КОЛЬКІ ЗАРАБЛЯЕМ І ВЫДАЕМ?

Галоўнае статыстычнае ўпраўленне падлічыла, што на аднаго члена статыстычнай варшаўскай сям'і выпадае па 1130 зл. даходу, лодзінскай і катавіцкай — 1070 зл., а познанскай і шчэцінскай — 770 зл. Варшаўскія гаспадыні выдаюць на харчаванне на 21 працэнт больш ад сярэдніх выдаткаў у краіне, а беластоцкія гаспадыні на дзесяць працэнтаў менш. На вопратку найбольш грошай расходуюць жыхары Варшавы, Вроцлава, Катовіц, Кракава і Аполя. На культурна-духовую справу найменш грошай адводзяць у Быдгоскім і Шчэцінскім ваяводствах.

### НАЙБОЛЬШ АШЧАДНЫЯ

Найбольш ашчаднымі ў нашай краіне аказаліся жыхары Лодзі. На кожнага ладзяніна статыстычна выпадае адна кніжка ПКО. Ашчаднасці на гэтых кніжках склалі ўжо суму ў 2 мільярды злотых.

### НАВУКА ПА-НОВАМУ

Міністэрства асветы пастанавіла, што ў гэтым навучальным годзе будуць уведзены новыя метады навучання дзяцей. Пачынаючы ад V класа дзеці ў класе будуць раздзелены на групы і некаторыя ўрокі будуць вывучаць яны ў гэтых групах. Словам, новая сістэма пабудавана на вопыце вышэйшых навучальных устаноў.

### ВУЛЬ — БОМБА

У мясцовасці Газдовіцэ знаходзіцца музей сапёра, у якім перахоўваюцца памятныя экспанаты з баёў за фарсіраванне Одры. Між іншым, знаходзіцца там дзве разброеныя сапёрамі нямецкія бомбы, кожная вышынёю да паўтара метра. У адной з гэтых бомб апошнім часам пасяліліся пчолкі. Адчуваюць яны сябе бяспечна і выгодна, бо да іх мёду ніхто не можа дабрацца. Дзеля гэтага прыйшлося б разрэзаць бомбу — вуль папалам. Працавітыя пчолкі дастаюцца ў сваё каралеўства праз дзіркі, якія асталіся ад прастрэлаў кулямі.

### ДЗЕЦІ — ЗЛАЧЫНЦЫ

У мінулым годзе суды для малалетніх разглядалі каля 2-хсот тысяч спраў. Сярод тых малалетніх злачынцаў найбольш вучняў. Найчасцей прабавалі яны пажывіцца чужым дабром. Перадавое ў гэтай галіне месца займае наша сталіца, а зараз за ёю — Гданьскае, Шчэцінскае і Зялёнагорскае ваяводствы. У Беластоку можна аддыхнуць з палёгкай, бо Беластоцкае ваяводства залічваецца да тых, дзе найменш наглядаецца малалетніх злачынцаў. Са статыстыкі вынікае, што найбольш небяспечным з'яўляецца ўзрост 13—15 год. Тады найлягчэй папасці на крывую дарогу злачынства.

## ВАЯВОДСТВА

### СТАНЦЫЙНЫ ПЛЯЦ

Пасля даўжэйшага часу ўрэшце закончана перабудову наваколля беластоцкай чыгуначнай станцыі. Стаіць тут новы будынак станцыйнай пошты, а сам пляц перад станцыяй атрымаў планавую архітэктурную і прыгожую забудову. Разам з жылымі дамамі, якія нядаўна выраслі насупраць станцыі, новая вопратка станцыйнага пляца стварае прыемнае ўражанне.

### ВЯСКОВЫ ВОДАПРАВОД

У вёсцы Руткі, якая знаходзіцца ў Замброўскім павеце ўкладваецца зараз водаправод. Будзе ён каштаваць паўтара мільёна злотых. Жыхары вёскі дапамагаюць грамадскім чынам, яны капаюць канавы і давозяць усё патрэбнае. Калі праца пойдзе спраўна паводле плану, можна будзе карыстацца вадой з кранаў яшчэ сёлета. Варта, каб іншыя вёскі падумалі аб падобных мерапрыемствах. Гэта ж вялікая выгада.

### КЛУБ У КЛЕНІКАХ

Нараўскі ГС абсталяваў у старой кленікаўскай школе (Гайнаўскі павет) клуб селяніна. Такім чынам жыхары вёскі атрымалі выгоднае месца для ўзаемных сустрэч. Асабліва цешыцца моладзь, якой у Кленіках многа.

### «СЯРЖАНАЎСКАЕ» СУКНО

Беластоцкі камбінат ваўнянай прамысловасці імя дырэктара Сяржана славіцца тым, што выпускае тавар высокай якасці. Вось нядаўна камбінат атрымаў дазвол на абазначэнне знакам першай якасці ўжо чацвёртай сваёй тканіны. Гэтым разам на знак першай якасці заслужыла тканіна на жаночыя паліто. Можна тады з поўным даверам купляць сукно з фабрычным знакам «Сяржана».

### РАБОЧЫЯ - ЧЫГУНАЧНІКІ ДЛЯ В'ЕТНАМА

Рабочыя чыгуначнага прадпрыемства стальных канструкцый у Старасельцах пад Беластокам на спецыяльна скліканым мітынгу запратэставалі супраць амерыканскай агрэсіі ў В'етнаме. Адначасова 24 чалавекі гэтага прадпрыемства аддало сваю кроў для ратавання ахвяр варварскіх бамбардзіровак.

### ПАМЯЦІ ЯЎРЭЙСКІХ ПАЎСТАНЦАЎ

17 жніўня г. г. у 23 гадавіну збройнага паўстання ў Беластоцкім яўрэйскім гета грамадскасць горада ўрачыста адзначыла гэтую слаўную дату ў гісторыі змагання з гітлераўскім захопнікам. Вялікі мітынг адбыўся на яўрэйскім могільніку ля вуліцы Жабей.

### ВЫНІКІ ВЯЛІКАГА КОНКУРСУ

Вялікі конкурс, які ад 1 студзеня 1965 года праходзіў пад лозунгам: «Вёска бліжэй тэатра», ужо падсумаваны, а ўзнагароды раздзелены. Найвышэйшай актыўнасцю адзначыліся: Манецкі, Дуброўскі, Ломжынскі і Сямяціцкі паветы. Першую ўзнагароду — 2 тысячы зл. — заваяваў Клуб маладога селяніна, які існуе пры сельскагаспадарчым тэхнікуме ў Ружаным Стоку.

### УВАГА, ГАРЫЦЬ!

У мінулым тыдні пажарнікі аднатавалі ў ваяводстве 22 пажары. Найбольш пацярпелі вёскі: Пагарэлкі, дзе згарэла 9 гаспадарчых будынкаў, Дзярнякова, (7 будынкаў з сёлеташнім плёнам) і Свіслачаны. Усе вёскі ў Беластоцкім павеце.

## Тэлевізія • тэлевізія • тэлевізія • тэлевізія • тэлевізія

**NIEDZIELA, 28.VIII.**
8.25 Program dnia; 8.30 „Z przewodnikiem — etnografia" — reportaż z Muzeum Etnografii w Leningradzie (Leningrad); 9.00 Film; 9.30 „Letni ogród" — reportaż z Leningradu (Leningrad); 10.00 Dla dzieci: „Pozdrowienia od naszych przyjaciół" (Bratysława); 11.00 Uroczystości w Szembathely (Węgry); 12.00 Przerwa; 13.30 Program dnia; 13.35 „Opera Wiedeńska". film („Największe teatry operowe świata"); 14.35 PKF; 14.45 „Michał Anioł i jego czasy", film wł.; 15.15 „W zielonym obiektywie" — program Redakcji Wiejskiej; 15.40 Dla młodych widzów: „Uczeń czarnoksiężnika" S. Bugajewskiego i W. Żółkiewskiej; 16.35 „Bitwa o czyste niebo" — reportaż filmowy; 16.50 „Szef" — film („Bonanza"); 17.40 „Odwiedziny w Oslo" — reportaż filmowy z Norwegii; 18.00 „50 lat Legii" — teleturniej; 19.00 „Słownik Wyrazów Obcych"; 19.20 „Dobranoc"; 19.30 Dziennik telewizyjny; 20.00 „Listy śpiewające" program VII p.t. „Miny do lustra". Tekst — A. Osiecka, muzyka — A. Sławiński. Wykonawcy: E. Kępińska, Z. Kucówna, J. Wejcman, K. Sienkiewicz, B. Bilewski, W. Pokora; 20.55 „Czarne skrzydła" — film fab. pol.; 22.30 „Niedziela sportowa".

**PONIEDZIAŁEK, 29.VIII.**
17.45 Program dnia; 17.50 Wiadomości dziennika tv; 17.55 Z cyklu „Na zdrowie"; 18.15 Kino Krótkich Filmów; 18.35 „PKP na wokandzie" 19.00 „Od klęski do zwycięstwa" — film dokument.; 19.20 „Dobranoc"; 19.30 Dziennik telewizyjny; 20.00 III TELEWIZYJNY FESTIWAL TEATRÓW DRAMATYCZNYCH: „Zamek" Franza Kafki. Wykonwacy. L. Pak, M. Rułka, H. Łapiński, B. Rachwalska, A. Gawroński, M. Kociniak, B. Bilewski, Z. Kucówna, M. Dzienisiewicz, J. Kostecki, E. Kępińska, S. Sródka, A. Jaraczówna, J. Kociniak, B. Ejmont, S. Lindner, statyści. (Przeniesienie z Teatru „Ateneum" w Warszawie); 22.00 TV Magazyn Postępu technicznego; 22.30 Dziennik telewizyjny.

**WTOREK, 30.VIII**
10.00 „Miłość jednej nocy" — film fab. rum.; 11.30 Przerwa; 15.25 Mistrzostwa Europy w lekkoatletyce (Budapeszt); 16.15 Przerwa; 16.45 Program dnia; 16.50 Wiadomości dziennika tv; 16.35 Dla młodych widzów „Wakacje i sport" „Spróbuj z nami"); 17.20 Mistrzostwo Europy w lekkoatletyce (Budapeszt); 19.30 „Dobranoc"; 19.40 Dziennik telewizyjny; 20.10 „Miłość jednej nocy" — film fab. rum.; 21.40 „Miasto nad Dnieprem" — reportaż filmowy; 21.55 Dziennik telewizyjny; 22.05 „Próg" — program dla rodziców i wychowawców.

**SRODA, 31.VIII.**
10.00 „Homo Varsoviensis" — film; 10.45 Przerwa; 15.55 24 lekcja języka rosyjskiego; 16.15 Program dnia; 16.20 PKF; 16.30 „Jarmark" („Kapitan Tenkesz"); 17.00 Mistrzostwa Europy w lekkoatletyce (Budapeszt), 19.20 „Dobranoc"; 19.30 Dziennik telewizyjny; 20.00 TV Kurier Warszawski; 20.15 „Homo Varsoviensis" — film; 21.05 „Światowid" — magazyn wydarzeń międzynarodowych; 21.30 „W rodzinnym gronie" — nowela filmowa wg. Guy de Maupassanta; 21.55 „Premiera warszawska", program muzyczny prowadzi J. Waldorff; 22.25 Dziennik telewizyjny.

**CZWARTEK, 1.IX.**
16.25 24 lekcja języka francuskiego; 16.45 Program dnia; 16.50 Wiadomości dziennika tv; 16.55 Koncert muzyki polskiej w wykonaniu Orkiestry Filharmonii Śląskiej pod dyr. Karola Stryji; 17.30 Mistrzostwa Europy w lekkoatletyce (Budapeszt); 19.40 „Dobranoc"; 19.50 Dziennik telewizyjny; 20.20 Okolicznościowy reportaż Redakcji Wojskowej; 20.55 Teatr Sensacji „Stawka większa niż życie" odc. IX pt. „Koniec gry" Widowisko sensacyjno-szpiegowskie Andrzeja Zbycha. W rolach głównych: S. Mikulski, I. Młodnicka, S. Jasiukiewicz, E. Karewicz oraz M. Homerska, L. Dytrych, K. Kowalewski, H. Krzyski, K. Kumer, R. Markowski, B. Niewinowski, J. Racina; 21.50 Dziennik telewizyjny 22.05 Program na jutro; 22.10 24 lekcja języka francuskiego.

**PIĄTEK, 2.IX.**
17.10 24 lekcja języka angielskiego; 17.30 Program dnia; 17.35 Wiadomości dziennika tv; 17.40 Dla dzieci „Miś z okienka"; 17.55 „Słonie mają pierszeństwo" film („Świat, który nie może zginąć"); 18.25 Mistrzostwa Europy w lekkoatletyce (Budapeszt); 20.00 Dziennik telewizyjny; 20.30 Przemówienie Ambasadora Wietnamu z okazji święta Demokratycznej Republiki Wietnamu; 20.40 Film o Wietnamie; 21.10 Teatr TV: „Szczęście Frania" komedia Wł. Perzyńskiego Wykonawcy: L. Czarska, L. Korwin, B. Kurzyńska, H. Rozwadowska, J. Para, S. Ptak, R. Zaorski.; po teatrze: ok. 22.20 „10 minut recenzji"; 22.30 Dziennik telewizyjny; 22.40 Program na jutro; 22.50 24 lekcja języka angielskiego.

**SOBOTA, 3.IX.**
10.00 „Vivere in pace" — film fab. wł. 11.30 Przerwa; 15.20 Program dnia; 15.25 Program tygodnia; 15.40 Mistrzostwa Europy w lekkoatletyce (Budapeszt); 18.50 „Warszawa, ja i ty"; 19.20 „Dobranoc"; 19.30 „Monitor"; 20.00 „Tele-Echo" 20.40 Dziennik telewizyjny; 20.55 Wiadomości sportowe; 21.10 „Warszawski Music-Hall" — program rozrywkowy. Wykonawcy: I. Cembrzyńska, A. Janowska, K. Konarska, J. Rawik, V. Villas, kwintet „Novi" oraz 20-osobowa grupa taneczna Zespołu „Śląsk", zespół akrobatyczny „Mortales". Program prowadzą Ewa Wende i Lucjan Kydryński; 22.20 „Vivere in pace" — film fab. wł.

(Працяг са стар. 1)



**Грыбоўшчанская царква, названая паломнікамі «Новым Іерусалімам».**

# Па ўсходняй Сакольшчыне

Сябра Валошын паставіў перада мною глыбокую талерку мёду і размова зышла на пчаліныя справы. А з пчалінымі справамі ў нас не найлепш. Павялічваючаяся на палях з года ў год колькасць атрут а асабліва атрут супраць стонкі труе цэлыя пчаліныя пасекі. Калі будзе так далей, можам быць зусім пазбаўлены гэтага «эліксіру жыцця» — мёду. Здаецца, што неабходным тут з'яўляецца нейкае паразумленне паміж саюзам пчаляроў, а службай аховы раслін. Пчаляры маглі б прынамсі затыкаць вуллі не выпускаючы з іх пчол на час масавага высеву атрут на палях. Пара аднак у далейшую дарогу. Дарога вядзе па-над рэчкаю Нетупаю.

У вёсцы Нетупе заглядаю ў мясцовую святліцу (праз акно, бо на дзвярах вялікі замок). На сцяне вісіць гэтая самая афіша, якую аглядаў я тут чатыры гады таму назад. І наогул усё тут тое самае, толькі ў вокнах святліцы крыху больш выбітых шыб.

Не больш вясёлы выгляд святліцы і ў наступнай вёсцы — у Санніках. Стаіць яна пасярэдзіне сяла падпертая магутнымі каламі, здаецца ў кожны момант калы лопнуць і вялікая будыніна святліцы грухне. Яна аднак стаіць.

У полі пытаю людзей пра дарогу ў Крушыняны.

— Гэта хіба ў мячэць вандруеце? — здагадваюцца людзі.

— Не, не ў мячэць. От, так сабе вандрую, — адказваю людзям.

— Угу, — мручаць спагадліва людзі.

У Крушынянах сапраўды існуе мусулманская мячэць. Жывуць тут згодна з сабою тры нацыі: беларусы, палякі і татары. Гэта больш за ўсё тры рэлігійныя групы: праваслаўныя, каталікі і мусулманы. Усе яны ад вякоў лаяльныя грамадзяне Польшчы, а па этнічнай культуры і па мове — беларусы.

У Крушынянах мне вечарэе. Пачынае падаць дакучлівы дождж. З прыемнасцю сустракаю сваіх знаёмых — супрацоўнікаў «Нівы» — Кастуся Пэтэльската і Аляксандра Макаля. Уладжваюся на начлег.

**Уладзімір Паўлючук**
фота аўтара

# Дружба і праца

*Хрэстаматыя для VIII класа*

*ПАЗЫКА*

*Што пазыка не кожнаму ідзе на карысць, усякі хіба добра ведае на сваім уласным карку. Пазнаў гэта і мой карак, нават не карак, а ногі.*

*Было так: выбраўся я ў Вільню, а што неяк, не тут кажучы, сароміўся паказацца ў горадзе ў лапцях, дык пазычыў боты ў суседа. Прыйшоў у Вільню: цягнуся ў Кальварыю. Аж тут на мосце, што зроблены праз раку Вілію, — бачу: нейкія два падросткі цягаюцца за чубы.*

*— Што вам, — кажу, — за ліха, абібокі вы гэтакія, чаго вам не хапае, — гэта ж смех і грэх.*

*— «Дзядзенька, — кажуць яны, — дзярэмся праўда, але дзярэмся з твае прычыны».*

*Вось, — думаю, — ліха папала; з-за мяне — Янкі з Гаротнікаў — у Вільні чубы трашчаць?!.. Аж дзіва: скуль яны могуць знаць мяне? Але на сэрцы зрабілася неяк добра: як бы ні было, а ўсё ж гонар.*

*— Пакіньце, — кажу, — хлопчыкі, шкада мне вас, ды скажыце, у чым дзела.*

*—«Як жа ж, дзядзенька, во гэты гіцаль кажа, што ў цябе шэсць пальцаў на назе, а я кажу, што пяць; ну, і ўзяліся за чупрыны».*

*— А дзеткі ж мае вы родныя, пакіньце цягацца, — кажу, — бо ў мяне і папраўдзе тыкеля па пяць пальцаў на назе!*

*— «Не, — кажа старэйшы хлапец, — так табе, дзядзька, веры не дамо: скінь боты і пакажы».*

*— Добра, — кажу, — хлопчыкі, супакойцеся, я вас пераканаю.*

*Зышлі мы на бок; сцягнуў я бот, адкруціў анучыну, пералічылі яны мае пальцы, — пяць!..*

*— Ага, — кажа той самы забіяка, — чаму ж ты, дзядзька, паказаў нам тыкеля правую нагу? А на левай то пэўна шэсць пальцаў!»*

*Хоць вас паляруш! Разуўся я і з левай нагі пачаў анучу адкручваць, — калі глянь — ажно ўжо няма маіх чупрыннікаў; няма каму пальцаў лічыць! Але, дасце веры, і на пальцы няма чаго нацягнуць, бо разам з імі паехалі і новыя, пазычаныя боты!..*

*Ядвігін Ш.*

*1. Што ведаеш аб гумарыстычных жанрах у прозе і ў паэзіі?*

*2. Якіх ведаеш беларускіх пісьменнікаў, ствараючых сатырычныя вершы і апавяданні?*

*3. Ці прадстаўленая ў навеле гісторыя магла здарыцца ў жыцці, ці ёсць яна літаратурнай фікцыяй?*

*4. Ці ведаеш нейкія камічныя гісторыі аб прыгодах сялян у горадзе? Калі так, дык паспрабуй на іх падставе напісаць апавяданне.*

**Біяграфічны даведнік**

Ядвігін Ш. — 1870—1920 — (сапраўднае прозвішча Антон Лявіцкі). Беларускі празаік з часоў «Нашай Нівы». Быў дасканалым майстрам малых празаічных форм. Яго апавяданні і навелы дзеляцца на гумарыстычныя, алегарычныя і сацыяльна - бытавыя. Выдаў зборнік апавяданняў «Васількі», «Бярозка». Друкаваў ва ўрыўках аповесць «Золата», якая асталася незаконччанай.



**Павел Валошын дэманструе працу новага, сканструяванага ім, трактара.**

# ЗОРАЧКІ

Словы і музыка **Сяргея Новіка-Пяюна**
Прысвячаю маім бацькам.




**Дні прыходзяць, дні адыходзяць, дні лятуць,**
**Выццем рэк бурлівых хвалі ўдаль бягуць.**
**Трэці год як на выгнанні ў чужыне**
**Трэба мучыцца душой і сэрцам мне.**

**Навакол нідзе не ўгледзіш родных хат,**
**Не працягне рук зычліва родны брат,**
**Не падзеліш нават думак з нікім тут,**
**Не прыгорне ў адзіноцтве родны кут.**

**Ўночы зорачкі прыветліва мігцяць,**
**Быццам з неба на мяне яны глядзяць.**
**Што чуваць, скажыце, зорачкі, вы мне**
**Ў маёй роднай ды далёкай старане?**

**Ці татулька мой і матанька ўжо спяць?**
**Ці таксама на іх зорачкі глядзяць?**
**Мо' й яны пытаюць зорак аба мне,**
**Што раблю цяпер ў далёкай чужыне?**

**Калі толькі яны, родныя, не спяць,**
**Калі йшчэ цяпер на зорачкі глядзяць**
**Занясеце ім, пакуль не блісnуў свет,**
**Зоркі мілыя, сыноўскі мой прывет!**

**І скажыце, каб не плакаў ні адзін,**
**Што ў выгнанні мусіць мучыцца іх сын. —**
**Прыдзе, прыдзе да нас хутка ясны май,**
**Прыляту тады, як птушка, ў родны край.**

**З новай верай, з новай сілай зажывём,**
**Беларускі гімн свой родны запяём,**
**Беларускай песні роднае пад тон**
**Заарэм мы і засеем свой загон.**

**Ўночы будзем мы на зоркі паглядаць,**
**Што, як сёння, ў небе будуць зіхатаць... —**
**Занясеце ж вы пакуль не бліснуў свет**
**Зоркі мілыя, бацькам маім прывет!**

г. Свеце над Віслай
29.3.1929 г.

# КРЫНКАЎСКІЯ БАЛЯЧКІ (2)

Крынкаўскія балячкі тыповыя для ўсіх беларускіх мястэчак і вёсак на Беласточчыне. Першая з іх і найбольшая — гэта цераспалосіца палёў. У дакладзе, прачытаным на ўрачыстай сесіі грамадскай рады ў Крынках — сесіі прысвечанай святу адраджэння Польшчы — так напісана:

«Без камасацыі ў сучасны момант немагчыма прымяняць усіх сродкаў найноўшай агратэхнікі. Стасаванне сяўбы сеялкаю, сяўбы селекцыйным зернем, механічнага догляду, механічнага апырсквання сродкамі хімічнай прапалкі, ачысткі палёў ад камення, большых пасеваў матыльковых раслін — ва ўсім гэтым перашкаджае, менавіта, цераспалосіца».

Трэба сказаць, што напісана вельмі слушна. Справы ліквідацыі цераспалосіцы належаць да найважнейшых спраў нашай грамадскай улады — прынамсі так павінна быць. Без ліквідацыі цераспалосіцы няма чаго думаць аб паляпшэнні нашай сельскай гаспадаркі. Гэту праўду разумеюць крынкаўскія ўлады і робяць, што могуць, каб стварыць перспектывы да лепшага. Дабіліся таго, што ўжо пачалася тут камасацыя земляў. Пачалася яна яшчэ ў мінулым годзе і працягнецца да 1970 года.

На Крыншчыне ўсё яшчэ замала карыстаюцца гаспадары штучнымі ўгнаеннямі. За мінулы гаспадарчы год крынкаўская зямля атрымала ў сярэднім каля 20 кг штучных угнаенняў у, так званым, чыстым рэчыве на адзін гектар. Тым часам гэтая сярэдняя лічба для цэлага Сакольскага павета складае 23,2 кг на гектар. У Крынках ведаюць, што ўраджаі жыта і пшаніцы ў Апольскім ваяводстве на заходніх землях дасягнулі 26 цэнтнераў з аднаго гектара. Тым часам гэтыя ўраджаі ў крынкаўскай аколіцы бадай не перавышаюць трынаццаці цэнтнераў з аднаго гектара — словам, напалову меншыя яны. Але, магчыма, у Крынках не ведаюць таго, што ў такім беластоцкім павеце, як Высока-Мазавецкі, гаспадары далі сваёй зямлі па 45,1 кг штучных угнаенняў у чыстым рэчыве на адзін гектар; у Замброўскім павеце — 40,0 кг і т.п.

Малое выкарыстанне штучных угнаенняў — гэта тыповая

(Працяг на стар. 5)

# ЛАГЕР І АСЯРОДДЗЕ

Што разбілі свае палаткі гарцэры ля вёскі ў лесе, у Рыбаках усе ведалі. Нават бабуля, якая пасла гусі ў канцы вёскі, хутка і дакладна акрэсліла нам дарогу ў гарцэрскі лагер. І вось перад намі вароты лагера. Лагерная варта, паводле рэгуляміна, затрымлівае нашу «Варшаву». Паказваем свае дакументы, і ўжо мы гасцьмі гайнаўскіх гарцэраў. Размова з так званай «кадрай» лагера сухая, адміністрацыйная. Штопраўда, сыплюць яны як «з рукава» фактамі лічбамі. Але гэта не тое, што было б арыгінальным, уласцівым толькі гайнаўскаму лагеру. Напэўна, сустрэцца з В. Паскробка — жыхарам Рыбакоў, — які змагаўся за вызваленне Варшавы і прайшоў баявы шлях да Берліна, маглі толькі гарцэры гайнаўскага лагера. Але падобныя сустрэчы былі і ў іншых.

І вось, чакаючы на ўрачысты касцёр, які адбыўся вечарам, сустрэў я дзядзьку з Рыбакоў. Пачалі размову. Аказалася, што мой размоўца таксама прыйшоў у лагер «на касцёр».

— Напэўна вы прывялі сюды сына ці дачку? — пытаю амаль упэўнена дзядзьку. Засмяяўся.

— Не! Мае дзеці яшчэ замалыя. А прыходжу сюды часта таму, што яны (гарцэры) вельмі цікава тут «прыстаўляюць».

І гэта быў пачатак таго арыгінальнага, чаго я і шукаў у гайнаўскім лагеры. Але да нас падыйшоў іншы мужчына з веласіпедам. Пачалі збірацца рыбакоўскія дзяўчаты, дзеці. На хвіліну я з імі развітаўся, каб потым сустрэць пры кастры сярод гарцэраў.

У між часе я многа даведаўся аб супрацоўніцтве і сужыцці: лагер — жыхары Рыбакоў, і наадварот. Ініцыятыва супрацоўніцтва выходзіла з двух бакоў. **У вёсцы** пачалі яго вучні сярэдніх школ, якія праводзяць канікулы ў бацькоў, а таксама служачыя, якія былі ў водпуску. Зразумела, лагер без вёскі таксама не мог абыйсціся: давоз вады, пакупка некаторых прадуктаў і т.п. Дружыновы Юрэк В. расказваў, што здаралася нават звяртацца да рыбакоўскіх краўчых, каб нешта пашылі, і за гэта нават грошай не бралі. Калі трэба было пазычыць веласіпед, каб паехаць у Нарву, ніколі не пачулася адказу: не. **У часе кастроў рыбакоўская моладзь актыўна ўключалася і выступала ў мастацкай частцы.** Кіраўніцтва лагера таксама старалася ўмацаваць прыемны «дух» сужыцця. Калі ў лагер прыехала кіно, загад быў адназначны: фільм высветліць у вёсцы і супольна яго аглядаць. Паколькі ў лагеры былі свае музыканты, часта арганізавана **супольныя вечарыны і ў вёсцы.** Зрэшты, супрацоўніцтва назіралася не толькі ў вечарынах. Лекар з лагера бясплатна лячыў не толькі дзяцей вёскі, але і ўзрослых. У хроніцы запісана выпадак; калі захварэла адна жанчына грыпам, дык лекар не толькі даў ёй параду, але зрабіў укол лекам з лагернай аптэчкі.



**Лагерная вячэра.**

Усе былі тым задаволены, усё ж у найбліжэйшую аптэку 8 км.

Але пачынаецца ўрачысты, апошні ў гэтым годзе, гарцэрскі лагерны касцёр. Старым звычаем касцёр падпальваем мы з Яняй Ч., як госці. Агонь асвятляе ўсеўшыхся кругом кастра гарцэраў і прыбыўшых рыбакоўскіх дзяцей, моладзі, дзядзькоў. Ля кастра прыймаюць нас з Яняй на ганаровых членаў гарцэрскай сям'і і завязваюць гарцэрскія гальштукі. Мы ўзрушаныя. А ля кастра прыгожыя песні, вершы, скетчы. Прыемна глядзець нам, прыемна тут пабываць жыхарам Рыбакоў. І вось гучыць мелодыя гарцэрскага гімна. Касцёр дагарае. Пара растацца нам усім да будучага лета. Развітваемся з радасцю. Усё ж пабачылі тут нешта арыгінальнае: сужыццё вёскі з гарцэрскім лагерам.

**Аляксей Карпюк**
Фота аўтара



**Гучыць лагерная песня ля кастра.**

СЕЛЬСКАЯ ГАСПАДАРКА БЕЗ ТАЯМНІЦ

# Са—ГЭТА ЎРАДЖАЙ

Усе разважанні на тэму вапнавання глебы абапіраем на дадзеныя сельскагаспадарча-хімічнай станцыі ў Беластоку. У лабараторыі праведзены аналізы на кіслотнасць, а таксама на фосфар і калій (на азот аналізы не робяцца, бо кожная глеба сістэматычна павінна ўзбагачацца гэтым рэчывам).

Вось дадзеныя аб кіслотнасці глеб у нашым ваяводстве: вельмі кіслыя глебы — 19%, кіслыя — 42%, слабакіслыя — 25%, ніякія — 12% і шчолачныя — 2%

Якія можна зрабіць вывады? Даволі простыя. Столькі вельмі кіслых глеб — гэта вельмі адмоўная з'ява, нават калі ўзяць пад увагу тое, што вырошчваем у нашым ваяводстве расліны мала ўражлівыя на кіслотнасць (напр. жыта, авёс, бульба).

Аднак існуюць пэўныя нормы, аб якіх трэба добра памятаць. Бо глеба, знак кіслотнасці якой pH складае менш 5 або нават да 5,5 зусім не надаецца да загаспадаравання. Калі і сеецца там жыта, дык ураджай нізкі. Іменна гэта з'яўляецца прычынай таго, што ў Сакольскім, Бельскім ці Гайнаўскім паветах штогод збіраюць горшыя ўраджаі, нягледзячы на тое, што прымяняецца шмат мінеральных угнаенняў.

Што рабіць? Вядома, вапнаваць. У 1970 годзе ў ваяводстве будзе выкарыстана больш 200 тыс. тон вапнаваных угнаенняў, г.зн. у некалькі разоў больш, чым цяпер. Гэта не толькі нашыя жаданні, гэта неабходнасць, калі хочам хутка павялічыць ураджаі і нашыя даходы.

У асноўным маем у сваім распараджэнні два віды вапнавага ўгнаення: паленую вапну і дроблены вапняк. Паленая вапна атрымліваецца ў выніку выпальвання вапняку ў печах. Гэта тая самая вапна, якая ўжываецца ў будаўніцтве, з той толькі розніцай, што яна дакладна мелецца, каб хутчэй у глебе ўступіла ў рэакцыю.

Існуе вельмі важнае правіла: паленую вапну прымяняем на цяжэйшыя глебы, а молаты вапняк — на лягчэйшыя. Справа ў тым, што паленая вапна хутчэй уступае ў рэакцыю, а на лёгкіх глебах гэта выклікала б хуткі распад перагною, якога ў нашых глебах і так мала.

Колькасць вапнавых угнаенняў залежыць ад кіслотнасці глебы, расліны і працэнту вокісу вапна. Паленая вапна пераважна мае ў сабе каля 65—85% чыстай вапны, а вапняк — да 56%. На цяжкія глебы трэба даць каля 15 ц паленай вапны, на сярэднія — 12 ц (або 25 ц вапняку), на лёгкія — да 15 ц вапняку. Вапнуем праз кожныя 3—4 гады. Вапнаванне ўздзейнічае на шэраг карысных працэсаў: змяншае кіслотнасць глебы, дзякуючы прысутнасці вапна хутчэй утвараецца перагной, лепш выкарыстоўваюцца мінеральныя ўгнаенні, лепш размнажаюцца бактэрыі, глеба пульхнейшая, лепшы доступ паветра, лепш затрымліваецца вільготнасць і такую глебу лягчэй апрацоўваць.

Часта можна пачуць, што вапнаванне патрэбна толькі пад цукровыя буракі. У нашых умовах вапна патрэбна ўсюды, амаль у кожнай гаспадарцы, нават калі і не вырошчваюцца прамысловыя расліны. Нездарма гаворыцца, што Са (кальцый) — гэта ўраджай!

**Інж. М. Сухажэбрскі**




НАЛІСНІКІ З ГРЫБАМІ

Зараз маем сезон на грыбы. Грыбы збіраем і робім запасы на зіму: грыбы сушым, солім, марынуем... А ў нядзелю на абед робім вельмі смачнае другое блюда для ўсяе сям'і — смажым наліснікі з грыбамі. 3/4 кг грыбоў памыць, пачысціць, парэзаць у паласкі, пакласці ў каструлю з падсмажанай у ложцы тлушчу цыбуляй і смажыць, не прыкрываючы, на даволі моцным агні, прытым часта мяшаючы. Падліваць вады не трэба, а пасля адпаравання празмернасці соку, дадаем солі і перцу і яшчэ тушым, ужо накрытае накрыўкаю, каля паўгадзіны. Адстаўляем для лёгкага ахаладжэння. Потым дадаем да грыбоў 2 вараныя ўкрутую і дробна парэзаныя яйкі, усю масу

# „Першыя крокі"

**К. ВУЙТОВІЧ**

**Прамысловае развіццё Беласточчыны — у большым маштабе пачынаецца ў пятым дзесяцігоддзі XIX стагоддзя. У 1845 годзе будуе тут даволі вялікую фабрыку нямецкі прадпрыемец Камішаў.**

**15 год пазней у горадзе працуе ўжо 10 тэкстыльных фабрык, а найбольшая мае 130 рабочых. Вялікую ролю ў развіцці беластоцкай прамысловасці адыграла прыведзеная ў рух у 1862 годзе варшаўска - пецярбургская чыгунка, якая набліжала беластоцкае валакно да рускага рынку збыту. Пасля 1864 года ў сувязі з ліквідацыяй паншчыны паяўляецца на рынку працы вялікі рэзерв таннай сялянскай рабочай сілы. Да 1870 года адбываецца ў Беластоку і навакольнай тэрыторыі амаль падвойны ўзрост лічбы фабрык тэкстыльнай прамысловасці. Сацыяльны і нацыянальны склад рабочага класа, які фармаваўся ў беластоцкай акрузе, быў вельмі розны і складаны.**

**Як пішуць у сваіх працах даследчыкі гісторыі рабочага руху на Беласточчыне Павел Кожэц і Станіслаў Калябінскі, найбольшую частку прамысловага пралетарыята складалі польскія і беларускія сяляне. Далей, вялікай групай з'яўляўся яўрэйскі пралетарыят — найбольш эксплаатаваны. Былі нават даволі вялікія групы рускіх і нямецкіх рабочых.**

**І ў гэтым людскім міжнародным канглямераце начала фармавацца класавая свядомасць, якая сталася генезісам супольных выступленняў, нягледзячы на нацыянальную, рэлігійную і моўную розніцу. Першыя, яшчэ стыхійныя забастоўкі выступаюць у Беластоку ў 70-тых гадах мінулага стагоддзя. Найперш бастуюць, патрабуючы павышэння платы, ткачы ў Беластоку, а ў 1876 годзе выступаюць беластоцкія рамізнікі супроць распараджэнню аб «білетаванні» і абавязку насіць за плячыма таблічкі, што яны лічылі ганьбаю. Супольна з хваляю набліжаючыхся крызісных гадоў бастуюць рабочыя ў Дабрыневе, Кнышыне і Супраслі. Гэтыя першыя забастоўкі, нягледзячы на свой выключна эканамічны характар, абазначалі аднак пачатак барацьбы пралетарыята супроць капіталістаў. Кожная забастоўка вучыла рабочых салідарнасці — яднала, нягледзячы на нацыянальную розніцу, усіх рабочых, паказваючы адначасова на тое, якая вялікая моц заключаецца ў аб'яднанні.**

**У гэты час у Беластоку ўзнікаюць звенні рэвалюцыйнай рускай арганізацыі «Зямля і Воля». Няшмат захавалася дакументальных матэрыялаў да нашага часу пра дзейнасць народніцкіх гурткоў у Беластоку. Несумненна, адным з найважнейшых звенняў гэтага руху было звяно ў асяроддзі моладзі беластоцкай рэальнай гімназіі. З групы яе вучняў выйдзе Ігнацы Грынявіцкі, які ў сакавіку 1881 года зрабіў у Пецярбургу бамбовы замах на цара Аляксандра II.**

**Паліцыя аднак не спіць, і ўжо ў 1879 г. адбываюцца першыя арышты. Царскія ўлады выкрываюць не толькі школьныя арганізацыі, але сцвярджаюць існаванне рэвалюцыйнай прапаганды і распаўсюджванне нелегальнай літаратуры ў асяроддзях маладых афіцэраў беластоцкага гарнізону. У 1883 годзе народніцкая дзейнасць сутыкнецца на тэрыторыі Беласточчыны з дзейнасцю партыі «Пралетарыят». Яе арганізацыйная дзейнасць у Беластоку пачынаецца ў верасні 1883 года. Прыязджае тады сюды пасланец Цэнтральнага Камітэта «Пралетарыята» — Гіляры Гасткевіч — дзеяч, які меў за сабою партыйную практыку з тэрыторыі Лодзі. Ён навязвае кантакты з гурткамі ткачоў і 4 кастрычніка распаўсюджвае на рускай і нямецкай мовах «Адозву да рабочых Беластока і аколіц». Аўтарам адозвы з'яўляецца Людвіг Варыньскі — напіша яе на некалькі дзён перад сваім арыштам.**

**Адозва паказвае на беднасць рабочых і яе прычыны, гаворыць аб абавязку рабочай салідарнасці, паказвае, што «адзінства, салідарнасць і веды» складаюць сілу пралетарыята; заклікае да барацьбы з прыгнятальнікамі, робячы вывад, што «братам нашым кожны, хто працуе, ворагам — хто жыве з эксплаатацыі». Толькі рабочы інтэрнацыянал, рэвалюцыя аддасць прылады працы тым, хто працуе. Было гэта адзінае друкаванае слова, накіраванае «Партыяй пралетарыята» да рабочых беластоцкай прамысловай акругі. Некалькі дзён пасля прыезду Гасткевіча едзе ў Беласток ад імя партыі малады, тады 20-гадовы — Фелікс Кон, які ў пісаных некалькі дзесяткаў гадоў пазней «Успамінах аб Пралетарыяце» — так ахарактарызаваў тагачаснае становішча ў Беластоку:**

# Некалькі слоў аб Кнаразах

Кнаразы – гэта даволі вялікая вёска ў Бельскім павеце. Тут больш 120 хат. Усе хаты амаль новыя, ёсць электрычнасць, крама, малачарня і праведзены тэлефон. Школа невялікая, месціцца ў ёй толькі чатыры класы. Кіраўніком школы з'яўляецца Уладзімір Шклярук. Кнаразоўскія людзі «не спяць у шапкі». Яны ўсімі сіламі стараюцца ўзбагаціць вёску і пашырыць культуру. Арганізуюцца розныя гурткі, між іншым, БГКТ пад кіраўніцтвам Марыі Карнілюк. Найбольш актыўным з'яўляецца гурток стражакаў. Налічвае ён 20 членаў. Стражацкім камендантам ёсць Мікалай Нікалаюк. Ранняй вясной пастанавілі вывучыць п'есу пад загалоўкам «Выбух». П'еса гэта была распрацавана надта старанна і добра. Першы раз убачылі яе жыхары на Вялікдзень. Потым ездзілі мы да іншых вёсак. Гледачы чужых вёсак ацанілі яе добра. Грошы, якія сабралі за п'есу, прызначылі на пабудову стражацкай рамізы. Рэшту грошай на рамізу дала ГРН. Усе стражакі з усмешкай на твары збіраліся раненька нядзеляй рабіць фундамент, пустакі, а потым ставіць рамізу. 4 ліпеня атрымалі тры стражацкія камбінезоны і сірэнку. Рэшту спадзяюцца атрымаць у найбліжэйшы час. Цяпер кожную нядзелю робяць розныя сходы, на якіх трэніруюць свае здольнасці. Некалькі разоў рабілі ўночы, каб сарыентавацца, за колькі хвілін будуць гатовы памагаць людзям у няшчасці.



Хаты і вуліца Кнаразоў.



Частка ўдзельнікаў п'есы «Выбух».



Стражакі працуюць каля пустакаў.



Стражацкая трэніроўка.

Тэкст і фота **Раісы Ваўрэнюк**
вёска Кнаразы

---

добра трэба вымяшаць. З 2 шклянак мукі, 2 яек і вады зрабіць цеста на налісьнікі, дакладна расціраючы, каб цеста не мела крупінак; паставіць на 15 мінут, пасля чаго смажыць тонкія налісьнікі. Налісьнікі смараваць фаршам (начынкай), скручваць, падсмажыць на гарачым тлушчы.

✲

«Што лепш купіць дзіцяці на кнігі ў школу: партфель ці ранец?» — пытаюць многія маці. Маломуу школьніку трэба толькі і выключна купляць ранец. Ён раўнамерна раскладае цяжар на плечы, а гэтым самым выпрацоўваецца ў дзіцяці паходка роўная, стройная. Ідучы ў школу дзіця не перамучваецца, свабодна можа махаць рукамі.

Інакш справа выглядае з партфелем. Наогул людзі прызвычаены партфелі, сумкі, клуначкі насіць у адной руцэ. Калі дзіця будзе насіць цяжкі партфель у руцэ, напрыклад, правай, у яго пасля нейкага часу наступіць скрыўленне пазваночніка. Правае плячо будзе крыху ніжэй левага. Гэта часта пакідае след на ўсё жыццё.

*Аксіння*

---

# Крынкаўскія балячкі (2)

(Працяг аа стар. 3)

рыса цэлай беларускай сельскай гаспадаркі на Беласточчыне. Бо, напрыклад, найбольш гаспадарлівы з беларускіх паветаў, Гайнаўскі павет, дзе і гаспадары шмат больш развітыя ад сакольскіх, выкарыстанне штучных угнаенняў таксама нямнога большае, чым у Сакольскім павеце (усяго 23,8 кг на гектар!).

Гэтыя лічбавыя даныя гавораць самі за сябе. Можна шукаць тут прычын у слабізнах гандлю мясцовых ГС-аў, але гэта не ўсё. Галоўная прычына ў традыцыйнай адсталасці наогул нашай беларускай гаспадаркі, аб чым сведчыць існаванне ў ёй цераспалосіцы і звязанай з тым нізкай яе прадукцыйнай здольнасці і нізкай свядомасці саміх гаспадароў. Можна спадзявацца, што крыху палепшыць гэту сітуацыю ўведзены прымус двухгадовага навучання ўсіх гаспадароў без розніцы на іх узрост. Такая навука пакіне свой карысны след, але будзе залежыць гэта і ад таго, як гэтая навука будзе перадавацца гаспадарам, наколькі будзе яна даступнай ім. Маем смутны вопыт, смутнае дасведчанне з вёскі Сакалды, дзе аграномы вучылі гаспадароў такой вучонай моваю, што ніхто іх не разумеў. Вынік такі, што ўсе знеахвоціліся да гэтай навукі. Баюся, каб не паўтарылася падобная сітуацыя і ў Крынках...

Урэшце хачу расказаць аб яшчэ аднoй балячцы Крынак, якая невядома як доўга будзе дакучаць. Стаяць пры вуліцы Гарбарскай моцныя сцены старой бажніцы, якая лічыцца архітэктурным помнікам нашай гістарычнай мінуўшчыны. Як вынікае з падлікаў ваяводскага кансерватара архітэктурных забыткаў, за адных шэсць мільёнаў злотых можна было б гэту бажніцу пераўтварыць у арыгінальны цэнтр культуры: тут змясцілася б кіно, святліца-клуб, бібліятэка з чытальняю і нават уся адміністрацыя крынкаўскай грамадскай рады. За адных шэсць мільёнаў! Адкуль узяць гэтыя мільёны? У Беластоку лічаць, што мільёны такія могуць знайсціся з фонду капітальных рамонтаў — абы толькі захацела іх знайсці Сакольская павятовая рада. Але ў Беластоцкай ваяводскай радзе моцна наракаюць на Сакольскую павятовую раду, называюць яе непаваротлівай, нядбайнай. Усю віну за недагляд над адбудоваю крынкаўскай бажніцы валяць у Саколцы на ваяводскага кансерватара, забываючы аб пастанове ад 1962 года, якая абавязвае мясцовыя рады нарадовыя апекавацца старымі будоўлямі. (глядзі: «Монітор»)

Балячак Крынкі маюць больш. Але ў Крынках сказалі мне: на першы агляд бярэм гэтыя, з другімі будзем ваяваць пасля. Ну, што ж, запас бяды не чыніць, як кажуць людзі. У гэтым выпадку такі запас сведчыць аб росце амбіцый Крынак да больш самастойнага і годнага бытавання. (СЯ)

---

# ПРАГУЛКА ПА ГАЙНАЎЦЫ

Многія гарады ў апошні час урачыста адзначалі свае слаўныя юбілеі. Лічыліся яны на стагоддзі. Пахіляючы пасівелыя бароды над запыленымі кнігамі, з важнасцю шукалі корняў свайго гістарычнага быту.

Гісторыя горада Гайнаўкі — кароткая. Гарадское яе жыццё ўвайшло ледзь у другі дзесятак гадоў. Наўрад ці згадзілася б яна аднак замяніць свой дзіцячы лёс на гісторыю 900-гадовага суседняга Бельска, а нават 1000-гадовая Ломжа не ў сілах выклікаць у яе зайздрасці. Перад Гайнаўкай, як перад кожным юнаком, яшчэ цэлае бурнае жыццё. Яна не азіраецца назад, на сваё закарузлае мінулае, але з аптымістычнай адвагай глядзіць у сваю будучыню і разумна кшталтуе яе.

Іду вуліцамі: Чырвонай Арміі, Пралетарыяцкай, Варыньскага, Леніна... іду роўным тратуарам, а побач па асфальце імчацца аўтамашыны. Гэта недзе тут — у наваколлі хімічнай фабрыкі — рабочыя жылі ў зямлянках. Зусім нядаўна, яшчэ дзесяць год таму. А сёння...

Старшыня Прэзідыума Гарадской рады Кастусь Ляшчынскі ганарыста заяўляе: — У мінулым годзе за дзяржаўныя грошы пабудавалі мы і перадалі ў карыстанне жыхарам горада 210 памяшканяў, а на канец гэтага года ў новыя кватэры перабярэцца яшчэ 104 сям'і.

Ведаю, што гэта яшчэ не ўсё. Вялікім зацікаўленнем у Гайнаўцы карыстаецца каапeратыўнае жылое будаўніцтва. Гайнаўская спулдзельня будуе зараз два жылыя гмахі для звыш 40 сем'яў і яшчэ ў гэтым годзе пачне будаваць трэці гмах. Усе яны на вуліцы Вызвалення. Прыгожая гэта вуліца. Многа тут дрэў. Кругом зялёна.

І не толькі на вуліцы Вызвалення. На працягу двух гадоў — 1964 — 1965 — на вуліцах і пляцах горада паявілася 8 тысяч новых дрэвак, а травой, кветкамі і кусцікамі парасло каля 7 гектараў зямлі.

Любяць гайнаўяне свой горад і не шкадуюць для яго сваіх рук. Гэта ж Гайнаўка пачала спаборніцтвы за найпрыгажэйшы горад у ваяводстве і была першай у гэтым спаборніцтве. Вартасць усяго таго, што гайнаўяне, не азіраючыся на зарплату, зрабілі свайму гораду толькі ў 1965 годзе карпатлівыя рахункаводы ацанілі на суму ў 2 мільёны злотых.

Вечарам прайшоў цёплы жнівеньскі дождж. У чорным асфальце вуліцы 1 Мая адлюстроўваецца яркае, амаль дзённае, святло ртутных трубак.

Вось перада мною старэнькі, ужо гістарычны будынак пажарніцкай рамізы, а зараз за ім распасціраўся калісьці прасторны пляц. Побач гудзе лесапільны завод. Гэты пляц бачыў не адну сцэну змаганняў рабочых за свае правы ў час шматлікіх забастовак, а пажарніцкая сірэна неаднойчы давала сігнал на трывогу.

Сёння тут прасторны сквер, лавачкі, кветкі, закаханыя пары і песні салаўя. Спыняюся на лавачцы і намагаюся пабачыць будучыню горада. Бургамістр Ляшчынскі, як тут па-сяброўскі называюць старшыню прэзідыума МРН, падказвае:

— Планы развіцця горада маем багатыя, але поўнасцю магчымыя. Ужо незадоўга не пазнаеце нашай Гайнаўкі. Паяўляцца новыя кварталы. Разбудуецца прамысловасць. У Гайнаўцы будуць працаваць фабрыкі стружкавых пліт і хатняй мэблі. Будуем зараз школу-помнік Тысячагоддзя Польскай Дзяржавы і тэхнікум драўнянай прамысловасці. Пракладаем водаправод, запланавалі лекарскую раённую амбулаторыю, фабрыку швейнай прамысловасці і другія гаспадарчага і культурнага характару аб'екты.

Вачыма ўяўлення бачу гэтыя стройныя гайнаўскія гмахі, якія раўняюцца белавежскім соснам, бачу яркія неонавыя агні і рухлівыя вуліцы Гайнаўкі.

Аднак, пакуль што, хочацца, каб гаспадыні з далёкіх прыгарадаў не бегалі аж у цэнтр горада за адной буханкай хлеба, якога не заўсёды можна дастаць. Хочацца, каб шматлікія свае і замежныя турысты не спалі ў цеснenькім і вельмі нявыгадным гатэлі, у вокны якога б'е ненайпрыемнейшы пах з пераапрацоўкі драўніны ў суседняй лесапільні.

**В. Рудчык**

---

**«Плаксівыя вынікі прапаганды былі непазбежным вынікам усяго пастаўлення справы; не было ні кніжкі, ні брашур, ні органа, прыстасаванага да патрэб рабочай масы. Час ад часу атрымаеш запрашэнне, час ад часу агітатар «сваімі словамі» гаварыў рабочым аб недахопах існуючага ладу і прыгажосці новага. Праца сярод рабочых была на апошнім месцы, на апошнім плане. Уся ўвага была звернута на вайсковых, і то не на салдат, а на афіцэраў».**

**Гасткевіч не мог доўга, без боязні арыштавання, знаходзіцца на гэтай тэрыторыі і пасля няцэлага года дзейнасці, вясною 1884 года, пакідае Беласток. Далейшая дзейнасць арганізацыі «Пралетарыят» на гэтай тэрыторыі да сённяшняга дня не з'яўляецца дакладна вядомай. Праўдападобна, далейшыя масавыя арышты рабочых дзеячоў у Варшаве і іншых цэнтрах парвалі ніткі кантактаў, якія навязалі ў Беластоку Гасткевіч і Кон. Аднак кароткі перыяд дзейнасці партыі I «Пралетарыята» сярод рабочых Беласточчыны, хаця не захапіў шырокіх кругоў, складае вельмі сур'ёзны момант у гісторыі рабочага руху.**

**Было гэта першае сутыкненне стыхійнага да гэтага часу рабочага руху з ідэяй навуковага сацыялізма і арганізацыяй рабочай партыі. Быў гэта першы крок да арганізаванай і кіраванай барацьбы, свядомай не толькі эканамічных, але і палітычных мэт.**

**К. Вуйтовіч**

---

# За „Дні" Беларускай культуры

(Працяг са стар. 1)

туразнаўца). 35 дэлегатаў Беласточчыны таксама ж рэпрэзентуе інтарэсы цэлага ваяводства, у якім праблематыка беларускай дзейнасці непарыўна звязана з цэласцю.

Беласточчына, калі гаварыць аб культуры, краіна наогул манатонная. Устарэлыя шаблоны (ці ўвогуле патрэбны шаблоны) у развіванні культуры, недахоп вялікіх актыўных цэнтраў і адважных людзей, недахоп часта патрэбнай атмасферы для зрываў і ўзлётаў — усё гэта не памагае. Манатонія была б несумненна глыбейшай, калі б не хапіла ў жыцці Беласточчыны Беларускага Таварыства, яго друкаванага органа «Нівы», шырокага актыву людзей сабраных вакол іх, увогуле — шырокага культурна - грамадскага беларускага руху, які пад апякунчымі крыламі сацыялістычнага ладу развіваецца на славу супольнай айчыны і які інспіруецца Таварыствам. Аб гэтым варта ведаць. Кангрэс Польскай Культуры папярэдзіць тыдзень званы Днямі Польскай Культуры. Якраз у гэтыя дні перад Кангрэсам у нас на Беласточчыне трэба змабілізаваць сілы для задэманстравання культуры і дасягненняў беларусаў, якія з дзеда-прадзеда сядзяць на беластоцкай неўраджайнай зямлі і твораць матэрыяльныя і ўласныя спецыфічныя культурныя багацці. Думаю, што ў рамках Дзён Польскай Культуры ад 17 кастрычніка на Беласточчыне трэба правесці «Дні Беларускай Культуры», паказаць яе шматграннасць, несмяротнасць, яе гуманітарныя, добрасуседскія суадносіны і яе 1000 год.

Дэталі пакідаю пад развагу нашым неспакойным дзеячам, актыву БГКТ, яго Прэзідыуму, нашым з творчай думкай чытачам. Давайце скажам і пакажам усім нашыя 1000 год!

**Вера Леўчук**

# Меркадо



Сталіца Мексікі горад Мексік налічвае шэсць мільёнаў жыхароў. Цяжка пракарміць такую масу людзей за пасрэдніцтвам толькі спажывецкіх крамаў. Таму ўзнікла густая сетка, скажам, рынкаў, дзе можна знайсці — купіць літаральна ўсё. На іспанскай мове гэтыя рынкі называюцца «меркадо».

Мексіканскія меркадас маюць сваю старажытную традыцыю. Яшчэ да часоў з'яўлення Калумба і ўслед за ім іспанскіх заваёўнікаў на амерыканскім кантыненце, на тэрыторыі цяперашняй Мексікі існавалі такія рынкі. Гандлявалі тут купцы-індзейцы розных індзейскіх плямёнаў.

Перад усім мноства тут апельсінаў, мандарынак, бананаў і іншых фруктаў малавядомых у нас, або і зусім невядомых. Затое тут дорага каштуюць грушы, хаця смак іх намнога горшы ад нашых. Таксама яблыкі.

Бульба прывандравала да нас з амерыканскага кантынента і з'яўляецца яна адным з падставовых прадуктаў харчавання. У Мексіцы, як не дзіўна, але бульба не з'яўляецца папулярнай. Прадаюць яе тут амаль як яблыкі — вялікая яна, круглая, мае тоненькую скурку. У Мексіцы падставовымі харчамі з'яўляецца кукуруза, фасоля і рыс. У асобным месцы меркадо прадаецца мяса — свініна, цяляціна, усялякая кураціна і рыбы. Поўны асартымент. Можна ўбачыць вялізныя кавалкі стопленай свіной скуры, якая мае смак скварак з сала. У Мексіцы лічыцца яна вялікім прысмакам, называецца «чычаронес», з гэтай скуры робяць своеасаблівыя налісніκі.

Проста цяжка пералічыць усе гатункі рыб, якія прадаюць у меркадо. Мала якія з іх падобныя да нашых рыб. Можна купіць тут маленькія сушаныя рыбкі з рэк, азёраў, пасыпаныя вострай прыправай званай «чылі»; можна купіць розныя дары мора, нават парэзаную на кавалкі акулу. Ёсць тут чарапахі, іх мяса вельмі смачнае; ёсць чарапашыныя яйкі, ракі, вустрыцы, крабы, васьміногі і шмат іншых смакавітых тварэнняў марской прыроды.

Каля меркадас знаходзяцца крамы з канфекцыяй і цукеркавымі вырабамі. Часта прадаюць у іх кветкі і вырабы цудоўнай мексіканскай народнай творчасці.

Яшчэ дзесяць год таму назад ва ўсіх меркадас было мноства пацукоў — а ў дажджавыя дні было поўна балота, непраходнага балота і гразі. Меркадо знаходзіліся пад голым небам. Мексіканскі ўрад пастанавіў пабудаваць добрыя памяшканні для меркадо — і то не толькі ў сталіцы, але і ў правінцыянальных гарадах. Цяпер тут чыста і прыемна. (а-ся)

ПАШТОЎКА З МІНСКА



Цяпер у сталіцы БССР — Мінску жыве каля 800 тысяч чалавек.
На здымку: Плошча Леніна ў Мінску.

# Першы ўдар па Берліну

Некаторым проста не верылася — да таго нечаканым было паведамленне, што ў ноч на 8 жніўня 1941 года група савецкіх самалётаў зрабіла налёт на Берлін.

— Лётчыкам нашай часці давялося першымі атакаваць фашысцкую сталіцу, — расказвае Пётр Ільіч Хахлоў, былы штурман першага мінна-тарпеднага авіяцыйнага палка ваенна-паветраных сіл Балтыйскага флоту.

Дваццаць пяць гадоў мінула з таго часу, але генерал-лейтэнант авіяцыі Хахлоў, які займае цяпер пасаду начальніка штаба авіяцыі Ваенна-Марскога Флоту, вельмі добра памятае падрабязнасці тых баявых дзён.

— Мы стаялі пад Ленінградам, калі атрымалі загад рыхтавацца да разведвальнага палёту ў Германію і бамбардзіроўцы ваенных аб'ектаў Берліна, — расказвае Пётр Ільіч.

— Адразу ж паляцелі на эстонскі востраў Эзель, што ў паўночнай частцы Балтыйскага мора. На вывучэнне трасы палёту, аб'ектаў фашысцкай сталіцы, падрыхтоўку самалётаў пайшло чатыры дні.

— Якія гэта былі самалёты?

— «ІЛ-4». Крэйсерская скорасць — трыста кіламетраў у гадзіну. Жнівеньскія ночы на Балтыцы кароткія. Таму вылятаць трэба было ў светлы час, каб зацемна падысці да Берліна і вярнуцца.

У першы палёт флагманскую машыну павёў камандзір палка палкоўнік Е. Прэабражэнскі. Ляцелі ўздоўж узбярэжжа Балтыйскага мора, на Шчэцін. Ноч выдалася месячная і гэта перашкаджала: на вадзе было шмат ценяў ад воблакаў і з-за іх берагавая мяжа выдзялялася невыразна.

— Дапамаглі нам арыентавацца самі гітлераўцы, — успамінае генерал. — Раптам знізу мы заўважылі міганне пражэктараў — нас з кімсьці зблыталі. А ў раёне Шчэціна была нават зроблена прапанова зрабіць пасадку, пражэктар асвятліў пасадачную паласу. Мільганула думка: «Вось бы разбамбіць аэрадром». Але выдаць сябе нельга. Цэль жа — Берлін. Яго мы ўбачылі здалёку, таму што вуліцы былі асветлены. Саманадзейныя фашысты, напэўна, не дапускалі і думкі аб тым, што рускія могуць з'явіцца над іх сталіцай. Як толькі ў Берліне, у раёне хімічных заводаў, разарваліся першыя бомбы, святло ў горадзе пагасла. Але ў савецкіх лётчыкаў былі ўжо арыенціры — тры буйныя ачагі пажараў — і яны працягвалі бамбіць.

Ачуняўшы ад разгубленасці немцы прывялі ў дзеянне сістэмы проціпаветранай абароны. Праменні соцень пражэктараў пранізалі неба, зенітныя снарады рваліся з усіх бакоў.

Палёт на Берлін працягваўся 7 гадзін. Цяпер такой працягласцю і такой адлегласцю наўрад ці каго здзівіш. Гэта стала зусім звычайнай справай для лётчыкаў. Але ў жніўні 1941 года, калі магчымасці авіяцыі былі іншыя, калі гітлераўцы ўжо ўзялі Смаленск і рваліся да Масквы, калі яны трубілі на ўвесь свет аб сваіх перамогах, паветраны ўдар па фашысцкай сталіцы быў подзвігам. У ноч на 9 жніўня нашы марскія лётчыкі зноў з'явіліся над Берлінам, а затым бамбілі яго шмат разоў. Палкоўніку Прэабражэнскаму, капітану Хахлову і яшчэ тром іх баявым таварышам было прысвоена званне Героя Савецкага Саюза.

А. Мядзведзеў,
кар. ТАСС

## Вулкан Нірагонга

На паўночным узбярэжжы возера Ківу, што на ўсходзе Конга, паблізу граніцы Рванды, знаходзіцца адзіны ў свеце вулкан, у кратэры якога ёсць возера не застылай лавы. У 1948 годзе адзін французскі спецыяліст правёў доследы кратэра і сцвердзіў, што люстра гэтага возера знаходзіцца на 380 метраў уніз ад сопкі вулканічнай гары. У 1953 годзе аказалася, што люстра гэтага возера апусцілася ўжо да 410 метраў, у 1958 годзе — да 430 м. у 1959 г. — да 450 м. а ў 1965 годзе сцверджана, што люстра гэтага возера зноў падымаецца, паднялося на 60 м вышэй. Лава не застывае тут таму, што пастаянна даходзяць сюды газы з глыбіні зямлі. Газы гэтыя праходзяць праз масу лавы і выклікаюць розныя гукі — свісты, мармытанне, што даводзіць да перапалоху мясцовае насельніцтва. У сучасны момант цяжка прадбачыць, што станецца з вулканам Нірагонга. Можа ён быць вельмі доўга спакойным альбо выбухнуць са страшэннай сілай. (а-ся)

## Пагібель сланоў

Страшэнная засуха, якая ад некалькіх месяцаў сушыць афрыканскі кантынент, асабліва Усходнюю Афрыку, пагражае жыццю вялікай масы сланоў і насарогаў. Нават паблізу плаціны Аруба ў запаведніку Тсава ў Кеніі знаходзяць трупы гэтых вялізных звяроў, загінуўшых ад голаду і смагі. Да часу засухі ў гэтым запаведніку пражывала звыш 15 тысяч сланоў, якім і так не заўсёды хапала корму. Прадбачваецца, што ад засухі загіне прынамсі трэцяя частка пагалоўя сланоў. (а-ся)

## Багі і віно

Цікава, што алкаголь ад найдаўнейшых часоў лічыўся напіткам і вынаходствам багоў (ці ж бы мы цяпер былі ім роўныя?). Старажытныя грэкі казалі, што бог Бахус адкрыў віно, егіпцяне зноў, што іх найбольшы бог Азірыс. Па лаціне гарэлка называецца «aqu vitae» — вада жыцця (!!!). (а-вл)

# Таямніцы станцыі П-Т-ікс

Й. ГОРНУНГ

Бельгійскае імпартна-экспартнае таварыства «Сімпэкс», дырэкцыя якога размяшчалася ў навейшым гмаху на адной з галоўных вуліц Бруселя, адносілася да нешматлікай групы прадпрыемстваў, якім нямецкія акупацыйныя ўлады далі спецыяльныя прывілеі. Невялікая, мала каму вядомая брусельская фірма дзякуючы спрыяльнай ваеннай кан'юнктуры, а таксама падтрымцы высокапастаўленых асоб з урада III рэйха, хутка разраслася ў магутнае, дасканала арганізаванае прадпрыемства з філіяламі ў многіх гарадах Германіі, Бельгіі, Галандыі і Францыі.

Афіцыяльна, як аб гэтым паведамлялася ў рэкламных аб'явах у ваенных газетах «Дзівермахт» і «Адлер», фірма займалася пастаўкамі тэхнічнага абсталявання і будаўнічых матэрыялаў для нямецкай арміі і арганізацыі Тодта. Адначасова яна вяла старанна законспіраваную дзейнасць, адыгрываючы вельмі сур'ёзную ролю ў складанай сістэме забеспячэння нямецкай прамысловасці стратэгічнай сыравінай, якая закуплялася або ў нейтральных краінах, або ў некаторых дзяржавах, якія знаходзіліся ў стане вайны з Германіяй. Да таварыства «Сімпэкс» вялі нітачкі, якія злучалі ваенную прамысловасць рэйха з амерыканскімі картэлямі і манаполіямі. Насуперак інтарэсам уласнай краіны бізнесмены ЗША праз парты Швецыі, Іспаніі, Турцыі і іншымі шляхамі пастаўлялі нямецкім ваенным каштоўную сыравіну, неабходную для вытворчасці зброі, — руды малібдэну, вальфраму, хрому і г.д. Але пра гэтую заканспіраваную дзейнасць кампаніі «Сімпэкс» ведалі толькі нямногія, найбольш давераныя супрацоўнікі прадпрыемства.

Падвойная роля фірмы вымушала яе падтрымліваць блізкія кантакты з пастаўшчыкамі розных відаў зброі, прадстаўнікамі ваенных заводаў, а таксама з міністэрствам ваеннай прамысловасці III рэйха. Персанал кампаніі складаўся выключна з людзей, спецыяльна падабраных СД і абверам. Гэта былі ў пераважнай большасці бельгійскія калабарацыяністы, якія адкрыта супрацоўнічалі з акупантамі, дэгрэлісты*) і фламандскія фашысты-сепарысты. Іх лаяльнасць да Германіі і гітлерызму не выклікала ніякіх сумненняў. Дырэктарам кампаніі «Сімпэкс» быў прызначаны Гуго Дзюпон — давераная асоба нямецкіх акупацыйных улад і контрразведкі, чалавек, у чыіх руках сходзіліся нітачкі многіх дзяржаўных таямніц рэйха. Дырэктар Дзюпон па справах службы падтрымліваў самыя шырокія сувязі з вышэйшымі афіцэрамі вермахта, чыноўнікамі нямецкай адміністрацыі, высокапастаўленымі дзеячамі нацысцкай партыі. У вачах гэтых людзей ён быў фанатычным дыгрэсістам. Генерал Зуфенгаузен камандуючы акупацыйнымі войскамі ў Бельгіі і ўпаўнаважаны па справах будаўніцтва Атлантычнага вала, сябраваў з Дзюпонам і часта прымаў ад яго хабары за права пастаўкі розных будаўнічых матэрыялаў для вермахта. Аднаму са сваіх супрацоўнікаў генерал неяк прызнаўся, што давярае Дзюпону больш, чым самому сабе.

Аднак ніхто з тых, хто акружаў Дзюпона — ні людзі з вермахта і СД, ні прамыслоўцы — не здагадваліся, што па вечарах стары шэры «опель» Дзюпона спыняўся на адной з заціпшых вулачак у квартале Муленбек.

Дырэктар выходзіў з машыны і, мінуўшы некалькі завулкаў і пафланіраваўшы з паўгадзіны па скверах, збочваў у маленькі праезд, які патанаў у зеляніне садоў. На другім паверсе адной з нешматлікіх тут віл, у пакойчыку з вокнамі на вуліцу, над замаскіраваным пад чамаданам перадатчыкам працавалі радыст і шыфравальшчыца. Тут размяшчалася канспірацыйная радыёстанцыя брусельскай групы савецкай разведкі. Станцыя трымала пастаянную сувязь з «Жыльберам» і Цэнтрам. З той прычыны, што радыус дзейнасці станцыі быў вялікі, яна перадавала ў Цэнтр і тыя данясенні, якіх не змаглі перадаць радыёстанцыі іншых груп. У гэтым выпадку данясенні пакідаліся ў спецыяльных кантактных скрынках, адкуль іх забіралі сувязныя брусельскай радыёстанцыі.

Дзейнасцю брусельскай групы кіраваў чалавек, якога ведалі пад псеўданімам «Кент».

Чалавекам гэтым быў доктар Гуго Дзюпон. Частыя выезды главы кампаніі «Сімпэкс» у Германію і Францыю па справах фірмы дазвалялі яму, не выклікаючы нічыіх падазрэнняў, утрымліваць пастаянны кантакт з супрацоўнікамі. Дзякуючы гэтаму галоўнае камандванне Савецкай Арміі своечасова атрымлівала неабходную яму інфармацыю аб новых відах нямецкай зброі,




## ВЕТЛІВАСЦЬ

*Прадаў я парсючка. Удалося. У першы клас палічылі. Значыць, на бекон пойдзе. Магчыма, за мора нейкаму амерыканскаму ці іншаму англійскаму капіталісту на стол. А мне што! Хай ведаюць, што мая баба, а не нейкая там машына яго карміла. Ды яшчэ як карміла! Парсючок, праўда, быў невялічкі, ледзь 123 кілаграмы, мог бы важыць і больш, але мне надта ж доўга давялося стаяць у чарзе да вагі і жаночы выхаванак выкінуў усё дашчэнту, чым яна яго зранку накарміла і гэтае ж вядро салёнай вады таксама адпампаваў назад. Бог з ім! Затое яго, свінню валасатую, зарэжуць.*

*Каб крыху павесяліцца і падмацаваць свой страўнік, зайшоў я ў ГС-аўскую гасподу, што людовай у нас называецца. І сапраўды, люду было тут, як мух у маёй хаце. Не паспеў я толкам увайсці ў смак салёнага селядца з мінулагодняй цыбулінай, як ля майго століка паявіўся аднавясковец Матвей.*

*— Значыць, селядцом пасіляемся, — загаварыў па-філасофску. — А селядзец, ведаеш, гэта рыба, яна любіць... І каб паказаць, што любіць рыба, Матвей спраўна адбіў чвэртку манапалёўкі. Я на чужое не ласы і свой гонар маю. Як толькі праглынулі Матвееву чвэртку, я папрасіў паўлітра.*

*У прачышчанай рэчцы вада шпарчэй бяжыць. Мы горлы мелі ўжо крыху прачышчаныя. Дык распілі маю паўлітроўку мігам. Але Матвей зараз закрычаў, вымахваючы пяцісоткай:*

*— Гэй там, пані, літра давай! Гавару, што хопіць, але Матвей запярэчыў:*

*— Ерунда! Свінку прадаў, дык грошай хопіць!*

*— А я ж таксама на кірмаш ездзіў ды не курыцу ж прадаваў, — гавару. — І ад мяне літроўка! Добрым за добрае плачу.*

*Далей я ўжо лік страціў і, чэснае слова, не ведаю, ці змог я дараўняць Матвеевай ветлівасці. Жонка кажа, што дашукалася ў маім партфелі ледзь адной стозлатовай паперкі. А найгорш, што судом пагражае, разводу дамагаецца. Нагаварылі ёй, што мяне Гаўрылава Манька цалавала. Вось да чаго давяла мяне ветлівасць. І што мне цяпер рабіць? Хоць ты ў «Сэрцайка» напішы.*

Асака

## П А Н

Жыў сабе вяльможны пан,
Шчэ быў пежанаты,
Не любіў ён мужыкоў,
Выганяў іх з хаты.

Сабраліся раз яны,
Давай гаварыці,
Як да пана падыйсці
І яго пабіці.

Адзін кажа: — Я пайду
І яго пастрашу,
Дык ён будзе уцякаць
Праз дзярэўню нашу.

Тады злапаем яго
І пачнем лупіці,
Каб на свеце доўга ён
Не мог ужо жыці.

Другі кажа: — Я не так
Выдумаў пра ёга
Як мы будзем яго біць,
Людзей. будзе многа.

Трэці кажа: — А я так
Вам скажу, як знаю,
Будзе ён ісці праз мост
У месяцы маю.

Тады злапаем яго,
Звяжам назад рукі
І ўкінемо пад мост
На вечныя мукі.

І дажdaліся яны,
Як ён ішоў ад Валі,
Узялі, кінулі пад мост,
Успамінай як звалі.

Як зрабілі яны так,
То пілі да рана.
Пілі, елі, весяліліс,
Што пазбыліс пана.

Аляксандр Яканчук
Райкі, Бельскі павет



— Коля?.. Сярожа?.. Міца?..



— Ёзік! Разбудзіш дзіця!..



— Ці вам трубу не прачысціць?

### СПАЛОХАНЫ

Міліцыянер дарожнага руху затрымаў падпітага шафёра:
— Скажыце, грамадзянін, вы пілі гарэлку?!
— Не, магу забажыцца, што нават не нюхаў...
— Тады, калі ласка, дзьмухніце мне ў гэты мяшочак.
— Ей богу, пане міліцыянер, калі я вас убачыў, то так спалохаўся, што мне яшчэ духу не хапае!..

### РАЦЫЯНАЛІЗАТАР

Жонка: — Мой даражэнькі, ідзі, памый ногі, ты ж кладзешся ў чыстую пасцель...
Мужык: — Што ты выдумала, Паўліна? Я ж заўтра як пайду на багно касіць, та ўсё роўна забруджу!.. (ва)

### НЕ МОЖА

«Усе кажуць, што калі я вып'ю, то хуліганю. Рабіць я гэтага не магу, бо заўсёды пасля выпіўкі начую ў міліцыі». (З апраўдання)

### БЫЛА Ў ЦЫРУЛЬНІКА

На вуліцы стаяць двух суседзяў і размаўляюць. Адзін звяртаецца да другога:
— Ці вы, сусед, не ведаеце, чаму гэта наша «Ніва» цяпер іншага, рыжага колеру?
— Мабыць была ў цырульніка і перафарбавалася, — адказаў другі. Юрка Скепка

### КРОПЛЯ Ў КРОПЛЮ

Выйшаў на сцэну спявак, зацягнуў жаласную песню, спявае і аглядаецца, ці не разжаліў каго-небудзь. І бачыць: у самым куточку стаіць бабуля і плача. Скончыў спяваць, збег са сцэны, падыходзіць да бабулі і пытае:
— Што, бабуля, заплакалі?
— Як жа мне не плакаць, паночку: спяваў ты кропля ў кроплю, як мая каза бляяла, калі яе ваўкі задзерлі!

### ХВАРОБАЧКА

У вясковы пункт здароўя прышла прыгожая, маладая дзяўчына і просіць:
— Пане доктар, прашу, калі ласка, збадайце мяне!
— А што вам баліць?
— Мне моцна баліць сэрца...
Доктар бярэ слухаўку і пытае:
— А як даўно адчуваеце боль?
— Ужо роўна трэці тыдзень, ад таго часу, як перастаў хадзіць да мяне Коля...
— А каб ён цяпер да вас вярнуўся?
— То мне зусім не трэба было б ісці да вас, пане доктар... (ва)

### АКЕНЦА ДУМАК

Падняць слабога — мала яшчэ: трэба затым і падтрымаць яго.

В. Шэкспір




У яго былі цяжкасці росту — не ўмеў горбіцца.

### ПАХВАЛІЛА

— Як табе падабаецца мая новая сукенка?
— Цудоўная! Твая краўчыха так шые, што і на тумбе добра сядзіць.

Усё людское нам не чужое.



### У ШКОЛЕ

*На экзамене інспектар сам пажадаў праверыць веды вучняў.*
*— Хто разбурыў сцяну Карфагена? — пытаецца ён. — Адкажа Віктар Лазуха.*
*— Я не ламаў, — разгубіўшыся, адказаў вучань.*
*Інспектара такі адказ не задаволіў, а Віктар яшчэ ніжэй апусціў галаву.*
*— Ён гэтага не зробіць, — заступіўся за Віцю Коля, які добра ведаў, што да паламанага летась Парфенавага плоту Віктар не меў ніякага дачынення.*
*— Гэта, мабыць, хтосьці не з нашай школы, — заявіў другі вучань.*

## МОЙ КРАЙ

Словы А. Русака — Муз. Е. Ціхановіча



Куды ні йду — лясы шумяць,
Цвіце за полем гай,
А поле вокам не абняць
І гэта ўсё мой край.

Жыве, працуе мой народ,
Ці ў снежань, ці у май
І багацее з года ў год
Мой родны, вольны край.

Куды ні йду — лясы шумяць,
За полем рэчка, гай,
А ў сэрцы песень не стрымаць
Пра мой любімы край.